Цана 2 м.



СКАУЦКАЯ БІБЛІЯТЭЧКА №. 5

# Асновы скаўцкай мэтоды

ВЫДАНЬНЕ ЗГУРТАВАНЬНЯ КРЫВІЦКІХ СКАЎТАЎ

СКАЎЦКАЯ БІБЛІТЭЧКА № 5.

# АСНОВЫ СКАЎЦКАЙ МЭТОДЫ

Пераклад з выданьня Міжнароднага Скаўцкага
Бюра ў Лёндыне

1 9 4 7

Выданьне Згуртаваньня Крывіцкіх Скаўтаў

## У С Т У П

Ніжэй пададзеныя высьвенены асна́ўных прынцыпа́ў Скаўтынгу будуць абмяжоўвацца толькі да разгляду пытаньня́ў, адносячыхся да галоўнага ядра скаўцкага руху - ю н а ц т в а ў веку ад 11 - 17 год. Пашырэньне гэтай схэмы на Ваўчанят і Старэйшых скаўтаў не карушае асна́ўнога значэньня ідэі, каля якой разьвіўся ўвесь скаўцкі рух.

Арганізацыйных спраў тут не закранута - хопіць падкрэсьліць, што прынцып, які ўводзіў Бі-Пі, - гэта д э ц э н т р а л і з а ц ы я.

Сказанае на гэтых старонках ёсьць спробай даць адказ на важнае пытаньне: <u>Якія істотныя асновы Скаўтынгу.</u>

### Неабходнасьць згрупаваньня.

Некаторыя прынцыпы скаўцкай мэтоды можна знайсьці ў розных камбінацыях іншых арганізацыяў у сыстэме выхаваньня хлапцоў, галоўным, што адрозьнівае Скаўтынг ад іншых арганізацыяў моладзі - гэта с ы н т э з а гэтых прынцыпаў. Калі-б мы адкінулі адзін або некалькі з гэтых прынцыпаў, - гэта дало-б у выніку новы рух, які ня быў-бы згодны з ідэямі, сфармулёванымі праз Бі-Пі ў кніжцы "Скаўтынг для хлопцаў" /1908/ і разьвінутымі ў ягоных далейшых творах і прамовах.

Бі-Пі прыйшоў да пераконаньня, што пры кожнай нагодзе неабходна высьняць і практычна прытрымоўвацца гэтых ідэяў, бо шмат скаўцкіх кіраўнікоў не ўяўляюць сабе практычных выпадаў са скаўцкіх прынцыпаў, або абмяжоўваецца толькі да аднабаковага падыходу да іх. Ім не хапае зразуменьня, што для стварэньня цэласьці, трэба злучаць усё разам.



Голас Заснавальніка Скаўтынгу замоўк, але ён захаваўся ў ягоных творах і ў досьледзе першага пакаленьня яго вучняў, якія прадаўжаюць яго навуку. Цяпер выходзіць наперад новая генарацыя, каб далей весьці справу. Увесь сэнс у тым, каб і яна поўнасьцю зразумела, чаго навучаў Бі-Пі. Неабходнасьць гэтая паўстае і таму, што ў апошніх часох мілёны людзей прывыклі да мэтоды масавага вайсковага выхаваньня і ім ня лёгка будзе яе выкінуць з галавы і прыняць, так у практыцы як і ў тэорыі, асаблівую мэтоду скаўтынгу. Старэйшае пакаленьне якое ведала асабіста Бі-Пі, мае абавязак адносна сваіх наступнікаў - абавязак высьняць і берагчы асновы вялікай справы.

### ЗАДАНЬНІ СКАЎТЫНГУ

<u>Мэты</u>

Пад канец свайго доўгага жыцьця Бі-Пі склаў мэты Скаўтынгу ў гэткіх словах:

"У выхаваньні нашых скаўтаў стаўляйма на першае месца в ы ш э й ш ы я м э т ы - і іх не забывайма, заняўшыся дробнымі справамі.
"Не дазвольма, каб тэхнічная частка пераважыла маральную. Практычныя занняткі, жыцьцё ў прыродзе, лягеры, вандроўніцтва, добры ўчынак, братэрства пры сустрэчах на Джэмбары - усё гэта сродкі, а ня мэта.
"Мэтай ёсьць <u>характар</u>, характар з пэўным заданьнем.
А гэтым заданьнем ёсьць, каб наступнае пакаленьне было здаровае духам у гэтым нездаровым сьвеце і, каб ставіла вышэй разумленьне службы - дзейнай службы Любові і Абавязку адносна Бога і людзей". /1939/.

## Характар

"Характар" - гэта тое слова, якое Бі-Пі заўсёды ўжываў пры высьненьні мэтаў і заданьняў Скаўтынгу. Што ён меў на думцы? Адказ можна даць яго собскімі славамі, гэтым разам з аднаго артыкулу, напісанага ў 1913 годзе, дзе ён разглядае выхаваўчую ролю Скаўтынгу: "...выхаваньне на прынцыпах высокіх ідэалаў, на самадаверры, на пачуцьці абавязку, на сіле духа, на самапашане і на пашане іншых - адным словам на тых якасьцях, якія твораць характар".

Гэтыя заданьні ня ёсьць выключна характэрныя для скаўцкага руху, хоць трэба зацеміць, што ўласьцівасьці, якія выбраў Бі-Пі, - сапраўды годныя падзіву. Галоўным што вырозьнівае Скаўтынг ад іншых арганізацыяў моладзі - гэта яго д у х і м э т о д а.

## ДУХ СКАЎТЫНГУ

Усе спробы акрэсьліць, што такое дух Скаўтынгу, засуджаны на няўдачу; сутнасьць скаўцкага духа можна знайсьці ў скаўцкім Прыра - чэньні і Праве.

### Прырачэньне

Хлопец складае прырачэньне або прысягу са с в а е й у л а с н а й в о л ь н а й в о л і на свой гонар - служыць Богу, сваёй Бацькаўшчыне і бліжнім. Гэтая служба вызначаная Скаўцкім Правам.

У першую чаргу трэба пакрэсьліць, што гэтае прырачэньне ёсьць дабравольным чынам. Калі застасованы да хлопца які-небудзь род прымусу, каб яго далучыць да Скаўцкага Братэрства, то ягонае прырачэньне ня можа мець



ніякай забавязваючай сілы. Факт, што ён дабравольна прыняў на сябе гэтыя забавязаньні - ускладае на яго асабістую адказнасьць, што і дае вялікую сілу.

Па-другое, трэба пакрэсьліць словы, якія Бі-Пі паставіў у прырачэньні /прысязе/ "на мой гонар". Бі-Пі ўважаў, што адным з найважнейшых нашых заданьняў - выклікаць у хлопца пачуцьцё гонару. "...Ад гэтага, пісаў ён, залежаць будучыя паводзіны і дысцыпліна скаўта. Мэтода, як прышчапіць гэтыя аснаўныя прыметы палягае ня так ужо ў застасаваньні правілаў, як хутчэй у падыходзе да хлопца, як да істоты, якой можна давяраць. Даверра выклікае далейшае даверра".

Трэцяе, што трэба адзначыць, гэта тое, што Бі-Пі ўлажыў да ўступных слоў прысягі думку: "я хачу зрабіць усё, што ў маёй сіле". Ён добра ўяўляў сабе, як вялікія мэты Прырачэньня і Права ня толькі для хлопца, але і для кожнага з нас. Таму ён сьведама паднёс Прырачэньне толькі да такога ўзроўня, на якім юнак адчуваў-бы, як трудныя ня былі-б ягоныя заданьні, што ён заўсёды яшчэ будзе верны сваёй прысязе, калі ён толькі робіць усё, што ляжыць у ягоных сілах.

### Абавязак адносна Бога.

Абавязак адносна Бога - гэта аснаўное забавязаньне кожнага юнака. У рамках скаўцкага руху поўнасьцю шануецца кожнае веравызнаньне і тое, да якога скаўт належыць. Ад скаўта чакаюць выкананьня сваіх рэлігійных павіннасьцяў і заахвочваюць яго да гэтага. Скаўты, якія не належаць да ніякай царквы, зазнаёмліваюцца з рэлігійнымі практыкамі пры супольных малітвах на зборках Дружын і на скаўцкіх лагажэнствах. Хто запярэчвае існаваньне Бога - ня можа быць скаўтам.

## Патрыятызм.

Ад кожнага скаўта вымагаецца, каб ён быў верны сваёй Бацькаўшчыне і служыў ёй паводле сваіх найлепшых сілаў, застасоўваючыся да абставін кожнага часу. Падобна як Скаўтынг ня трымаецца ніякай дакладна азначанай рэлігійнай формы, так сама ён не бароніць нейкай дакладна азначанай палітычнай філязофіі; ягонае выхаваньне моладзі да добрых грамадзян ня мае нічога супольнага з палітычнымі партыямі. Як мае праяўляцца абавязак грамадзяніна адносна грамады - гэта справа дарослага, а не скаўта.

## Права.

Скаўцкае права падае ў ясна зразумелай форме кадэкс такіх паводзін, якія твораць аснову добрай грамадзкасьці. Яно ставіць перад хлопцам - у пазытыўнай, а не нэгатыўнай форме - такія прыметы і абавязкі як, чэсьць, вернасьць, услужлівасьць, сяброўства, рыцарскасьць паслухмянасьць, жыцьцерадасьць, гаспадарнасьць, і чысьціню. Практычны спосаб іх зьдзейсьненьня дае жыцьцё ў Дружыне, штодзённы добры ўчынак запачаткоўвае вырабленьне прывычкі думаць аб іншых.

## Кліч.

Таксама скаўцкі кліч: "Напагатове"!/"Будзь гатовы!"/ - прыпамінае скаўту аб выконваньні Прырачэньня і Права. На працягу сваёй службы скаўт падрыхтоўвае сябе, каб быць карысным для іншых. Ён вучыцца дбаць пра сябе і ўтрымліваць халоднакроўнасьць у няшчасьці, каб магчы падумаць пра іншых і прыйсьці ім з дапамогай.

## Усьмешка

Адным з асноўных духовых элемэнтаў Скаўтынгу, як гэта часта нам прыпамінаў Бі-Пі - гэта жыцьцерадасьць. Калісьці ён казаў нам ня весьці сябе "праклята запаважна" і перасьцярагаў, што Скаўтынг страціў-бы свае пакліканьне і посьпех, "калі затраціў-бы ўсьмешку", "Скаўтынг - гэта гульня," - гаварыў ён.

## Разнастайнасьць.

Іншым важным мамэнтам, якога нельга добра акрэсьліць, ёсьць тое, што Бі-Пі казаў: "заўсёды новыя перажываньні ад усё новых прыгодаў". Гэтая любоў нечаканага ёсьць прыметай сапраўднага скаўта. "Я мала карыстаюся сыстэмай устаноўленай рутыны ў будынку Галоўнай Скаўцкай Кватэры" - пісаў Бі-Пі. Вось таму ён падкрэсьліваў вагу беспасрэднага перажыцьця скаўцкім правадніком.

# ДЗЕЙНАСЬЦЬ СКАЎТЫНГУ

## Зацікаўленасьць.

Схэма выхаваньня, якую ўвёў Бі-Пі, асноўваецца на выкарыстаньні прыродных нахілаў хлопца, якія зьяўляюцца штуршкамі да такой дзейнасьці, што мае яго зацікавіць і захапіць. Вось як ён пісаў у красавіку 1922:

"Назіраньнем, або распытваньнем старайся даведацца, якая дзейнасьць найбольш да спадобы хлопцам, і тады старайся, паколькі можаш, зрабіць яе дасягальнай, зразумела, калі яна наагул можа быць карыснай для хлопцаў".

Важным ёсьць адзначыць яшчэ апошнюю засьцярогу Бі-Пі: "калі яна наагул можа быць карыснай". Тут мае перад сабой скаўцкі праваднік важную адказнасьць за выбар, - пасьля нарады і ўзгадненьня з самымі хлопцамі, - такой дзейнасьці, якая найлепш падходзіла да заданьняў скаўцкага выхаваньня. У гэтай справе служыць можа нам за праваднікá кніжка "Скаўтынг для хлопцаў" але Бі-Пі ніколі не вымагаў, каб гэты падручнік

вырашаючы на ўсіх пытаньнях. Бі-Пі заўсёды падсказваў думку аб неабходнасьці шуканьня новай дзейнасьці і вымагаў ад скаўцкіх праваднікоў, каб яны, падобна як і ён, шукалі ўсьцяж новых спосабаў для зацікаўленьня і лепшага выхаваньня нашых хлопцаў.

Трэба адзначыць дзьве характэрныя рысы гэтай схэмы:

Жыцьцё ў прыродзе.

У сапраўдным скаўце заўсёды праяўляецца тып вандроўніка, піянера і адкрыўцы-дасьледчыка, прыметы, якія ляжаць у нашай натуры і якія найбольш праяўляюцца ў хлапцоўскім веку. Адсюль выплывае значэньне першага сказу ўступу "Пасьненьне Скаўтынгу" у кніжцы Бі-Пі "Скаўтынг для хлопцаў":

"Пад словам "Скаўтынг" разумеем дзейнасьць і прыметы лясного чалавека, адкрыўцы-дасьледчыка і абаронцы граніцаў".

Скаўтынг ёсьць рухам моладзі на ўлоньні прыроды - і гэта адна з ягоных істотных прыметаў. Як-бы не загнялі нас у хату такія ўмовы як: надвор'е, цемра, або жыцьцё ў горадзе - мы заўсёды павінны разглядаць гэта як некарысную неабходнасьць, якая ніколі дастаткова не заступіць нам жыцьця ў прыродзе. Будынак Галоўнай Кватэры ёсьць патрэбны для шматлікіх заданьняў, але Скаўтынг нарадзіўся не ў будынку. Сапраўднае "поле" дзейнасьці скаўтынгу - гэта поле, лясы, шырокія прасторы пад свабодным небам.

Дасягненьні.

Падрастаючы хлапец хоча бачыць, што ён наступае наперад у сваёй спраўнасьці і ведах практычных рэчаў. Бі-Пі выйшаў насустрач гэтым



гэтым імкненьням с ы с т э м а й а д з н а к, якія зьяўляюцца неразьдзельнай часткай Скаўтынгу. Маем адзнакі спраўнасьці на скаўта трэцяй, другой і першай клясы, за здабыцьцё ўсебаковага скаўцкага вышкаленьня, іншыя заахвочваюць да здабыцьця веды, карыснай для для грамадзкай службы; іншыя адзнакі маюць на мэце пабольшыць зручнасьць скаўта ў жыцьці пад голым небам; яшчэ іншыя даюць яму прыемныя заняткі ў часе адпачынку. Шырокая разнастайнасьць, якую дае Скаўтынг, ня ёсьць падуманая як заахвочаньне да здабыцьця як найбольшай колькасьці адзнак, ле заданьнем - пабудзіць да поступу нават найменш здольнага хлопца.

## МЭТОДА СКАЎТЫНГУ

Адзіная мэтода.

Асабліва характэрнай прыметай Скаўтынгу ёсьць мэтода выхаваньня, якую застасаваў і ўдасканаліў Бі-Пі. Ён апрацаваў яе ў часе досьледу шкаленьня маладых жаўнераў, вайсковых выведнікаў у Індыі і Афрыцы. Ён пераканаўся, што маладым жаўнерам не хапала найбольш такіх прыметаў характару, як: ініцыятывы, самаўпэньненя і стойкасьці. Здабыўшы ў гэтым кірунку досьлед, ён потым выкарыстаў яго ў сыстэме выхаваньня хлапцоў.

Дружынная сыстэма.

Ключом да скаўцкай мэтоды ёсьць дружынная сыстэма, якую можна акрэсьліць славамі Бі-Пі: "аб"еднаньне хлапцоў у дружныя банды пад праваднцтвам аднаго з іх самых, - банды, якая ёсьць іх прыроднай арганізацыяй для гульняў і дурэньняў.

Дружына з 6-8 хлапцоў ёсьць дастаткова малая, каб кожны з іх адчуваў, што ён можа гуляць самастойную ролю, як "адзін з банды".

Кожная адзінка ў Дружыне нясе адказнасьць, дома і ў табары - за сваю дакладна азначаную функцыю ў працы цэласьці.

Пад праваднiцтвам дружыновага, які ўвесь час нясе асабістую адказнасьць, Дружына паступае наперад пры здаровым спаборніцтве з іншымі Дружынамі; яна становіцца сям"ёю, злучанай моцнымі вузламі вернасьці. Калі скаўты абгаварываюць спосабы і сродкі для пабольшаньня сваёй спраўнасьці, - то яны гэтым вучацца як жыць у грамадзе і як аддаваць і прымаць тое, што неабходнае ў грамадзкіх справах. Гэта ёсьць - "Усе за аднаго і адзін за ўсіх!"

На нарадзе Зьвязу, або на адправе дружыновых, калі зыдуцца кіраўнікі, каб абгаварыць справы Зьвязу, яны вучацца, непрыкметна, дэмакратычных формаў жыцьця, неадлучных сапраўднай грамадзкасьці.

Трудная ідэя.

Нічога дзіўнага, што Бі-Пі ўвакаў за неабходнае выясьняць дружынную сыстэму. Звычайны спосаб школеньня адбываецца этапамі пры дапамозе гутарак і павучэньняў. Гэта найлягчэйшы спосаб працы. Кіраўнік ідзе да-дому з пачуцьцём, што ён нешта зрабіў. Аднак з націскам трэба было-б запытаць: "Але ці скаўт выканаў што-небудзь? Ці ён прычыніўся чым-небудзь для справы і ці такім чынам разьвіў собскія здольнасьці і характар?"

Толькі не масавая мэтода.

Бі-Пі быў вялікім, а нават заўзятым праціўнікам кожнай масавай мэтоды выхаваньня. Таму, кажучы аб скаўцкіх табарах, ён гаварыў: "Скаўцкія табары павінны быць малыя - разам ня маюць быць у табары больш як адзін Зьвяз, але нават і тады кожная Дружына павінна мець свой аддзельны шалаш у пэўнай адлегласьці ад іншай. Гэта таму, каб вырабіць большую адказнасьць дружыновага за ягоную адзінку".

Так сама ён ня любіў "капральшчыны". У "Скаўтынг для хлопцаў" ён пісаў:

"Вайсковая капральшчына вядзе да зьнішчэньня асабовасьці, тады як мы змагаемся,каб вырабіць у скаўтаў індывідуальны характар. А калі ўжо раз прывыкнем да капральшчыны, яна мучыць хлопца, які стараецца, каб выладаваць сваю энэргію ў нейкім дрэнным учынку, каб выцурыцца. Капральшчына прытупляе ягоную зоркасьць. Наша мэта - зрабіць з нашых скаўтаў маладых выведнікаў, а не насьлядоўваць жаўнераў."

Нават адносна фізычнага выхаваньня Бі-Пі клаў націск на тое, каб зрабіць хлопца асабіста адказным за сваё ўласнае здароўе і, каб яго фізычнае разьвіцьцё - пры дапамозе ягоных індывідуальных практыкаваньняў і высілку - зрабіць яго прыватнай справай і перасунуць на вольныя хвіліны.

Дзейнасьць Скаўтынгу на ўлоньні прыроды прыносіць нам прыродныя спосабы, якія спрыяюць здароўю і разьвіцьцю фізычнай спраўнасьці.

Так вяртаемся ізноў да дружжыннай сыстэмы - "ключа да посьпеху" - як яе назваў Бі-Пі. Гэтая мэтода забясьпечвае кожнаму скаўту індывідуальны падыход, а яго ўзрастаючая адказнасьць і даверра становяцца дасягненьнем грамадзкасьці.

## СУСЬВЕТНЫ СКАЎТЫНГ

Скаўтынг ня быў спачатку падуманы, як універсальная сыстэма выхаваньня моладзі.Хутка аднак аказалася, што ідэі і мэтоды, улажа-

ныя генэралам Бі-Пі, маюць далёка шырэйшае застасаваньне, чым ён сабе ўяўляў. Край за краем пераканаўся, што Скаўтынг адпаведны для хлапцоў, як ніякі іншы спосаб выхаваньня. Так паўсталі міжнародныя сувязі руху моладзі. Удалейшым, пры захаваньні нацыянальных асаблівасьцяў кожнага народу, павінна наступіць прыстасаваньне ўсіх арганізацыяў да духа Скаўтынгу. А Скаўтынг можна ўважаць за правільны толькі тады, калі ён будзе мець характэрныя прыметы, коратка вылажаныя на гэтых бачынах, калі будзе:

1. Дабравольная прысяга і Права скаўцкіх наказ дзінаў.
2. Паступовая і заахвочваючая праграма дзейнасьці на ўлоньні прыроды.
3. Сыстэма адзнак дзеля пабуджаньня скаўта да поступу наперад.
4. Выпрабленьне характару, аснованае на дружжынай сыстэме.

----ооо----

У ПАДРЫХТОЎЦЫ ДА ДРУКУ:

"Праграма скаўцкага выхаваньня", ідэалягічнае абгрунтаваньне праграмы скаўцкага выхаваньня.

"Скаўцкія гульні" - зборнік скаўцкіх гульняў з мэтадычным уступам.

"Скаўцкая Прысяга і Права" - ідэалягічны нарыс.